# Павел Марціновіч

# ЧАС БУРШТЫНУ

*вершы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1977

## ЗАКЛІНАННЕ

Лістоты шэлест, ззянне зараніц,
І срэбра хваль, і хваляванне жыта...
Хай гэта ўсё ў душы маёй звініць
І сэрцам будзе перажыта.

Усё, што ёсць, і тое, што было,
Маімі спадарожнікамі будзьце —
І колеры, і гукі, і святло,
І думкі, і пачуцці.

Няхай дарог не ашчаджае лёс,
Ані гасцінца, ані дзікай сцежкі.
Адно хай вочы не баяцца слёз,
А вусны — ўсмешкі.

Ісці, пакуль вятры не адгулі,
І верыць, і змагацца.
І з казачнаю шчодрасцю зямлі
Зраўняецца душы маёй багацце.

* * *

Лясны гушчар і зорны бляск начы,
Маўкліва-безуважны і сцюдзёны...
Мне ад яго нікуды не ўцячы
І не схавацца ў тлуме спраў штодзённых.

Калі прыходзіць восеньская ноч
І гоніць прэч будзённую турботу,
У поглядзе нядрэмных зорных воч
Чытаеш аднастайнасць і самоту.

Пакутнае цярушанне хвілін...
Усюды змоўк, усюды змрок пануе.
І вершаліны хвояў і ялін
Над сэрцам калыхаюцца панура.

І думка нараджаецца адна,
З глыбінь, знянацку, як выратаванне,
Што не пражыць ні ночы і ні дня
Без чыстых дум,
узнёслых парыванняў...

## ПРАЦА

Ад пакутлівых думак,
Дзён, працятых журбой,
Праца — ты паратунак,
Паратунак мой.

Адмігцела надзея...
Ёсць адзін толькі цуд,
Ёсць адна панацэя —
Працуй!

Працай (хай самавіта
Каласяцца радкі)
Засланюся, як жытам,
Густым, трапяткім.

## АПАНТАНАСЦЬ

Апантанасць, шумлівае голле сваё разгарні,
Зазвініць хай яно ў заінелым паветры пакоя
Звонам тысяч дажджын красавіцкіх.
Ты іх страсяні
На душу.

## РАНАК

Раскрылены
Трапеча каляндар,
Як птушка,
Што знянацку заляцела.
Звычайны дзень,
Як незвычайны дар,
Я адчуваю
І душой, і целам.

І свет — як дом,
Што сам ты збудаваў,
Яго без болю
Кінуць немагчыма...
Той свет,
Які я ўчора аддаваў,
Я аглядаю прагнымі вачыма.

## ГРОНКІ АРАБІНЫ

*Lucia Cucciarelli*

Калі даспелі гронкі арабіны
І мільганулі чырванню праз плот,
Журботай набрынялыя хвіліны
Душу маю працялі навылёт.

Аб чым падумаў я тады: аб лёсе,
Аб тым, што я сустрэў і не сустрэў?
Што мне тады балючае здалося
У найшчымлівых барвах позніх дрэў?

Мо гэты сум прыйшоў яшчэ раней,
Быць мо ён быў у сэрцы штохвілінна?
Не ведаю, пра што падумалася мне,
Калі заззялі гронкі арабіны.

* * *

Быў дзень крамяны, дзень асенні,
І твой настрой гаіла ўсё,
Бадзёры халадок басейна,
І парку зыркае лісцё,

П'янлівага паветра брага...
І ты падумаў паміж дрэў,
Што ўсё ідзе не так і блага,
Хоць і не так, як ты б хацеў.

* * *

Ах, звон веласіпедных колаў,
Як ён павольна растае!
У гэтым ціхім наваколлі
Яго мне дужа нестае.

Я зноў ляцець хачу імкліва,
Неўтаймавана, стрымгалоў.
Ах, колы, вы былі як дзіва
Сярод узлескаў і палёў.

Там сэрца дыхала спакоем,
І, асвятляючы палі,
Са срэбра вылітыя колы,
Як сонцы, ззялі і плылі.

...Туман згушчаецца вячорны,
А на сцяжыне палявой —
Два колы круцяцца, як жорны,
Што перамелюць смутак мой.

## ПАДАРОЖЖА

Стракатага ўсходу дзівосы,
Зіхоткага дойлідства свет.
Вось цягнецца стромка ў нябёсы
Узняты, як меч, мінарэт.

Ахоплены прагаю нейкай,
Іду, нецярплівы, далей.
Блішчыць дарагой цюбецейкай
Дрымотных вякоў маўзалей.

Цікаўнасць — спатоліў да рэшты.
Ніяк — не развеяў нуду.
Хоць марыў — убачу тут нешта
І свята на сэрцы знайду.

І роздум прыходзіць шчымлівы:
Самому сабе я хлушу.
Каменныя гэтыя дзівы
Жывую ўсхвалююць душу?!

* * *

Аднастайна
Дажджы звінелі,
І лістота
злятала
з дрэў.
Аднастайна
Плылі завеі,
І на ходніку
Снег рыпеў.

А прадвесне кудысьці
знікла,
Знерухомеў душы
цалік.
І вясна завітала
звыкла,
Як сапраўднай вясны
двайнік.

Дык чаго ты, скажы, чакаеш?
Чуў, што повен зямны наш лёс,
Быццам ракавіна марская,
Гулу радасцей і дзівос?

Хваляй пеністаю і пругкай
(Каб не хлынула, сцеражы!)
У той ракавіне, як трункі,
Бродзяць спелыя капяжы.

Здатны браму любую — насцеж,
Там святочны прыбой гудзе...
І не можаш хутчэй прыкласці
Гэты гул да сваіх грудзей!

## УРАЧЫСТЫ МАРШ

Хоць прыёмнік не быў бездакорны,
І хрыпеў ён калі-нікалі —
Урачыстага марша акорды
Паплылі,
паплылі,
паплылі.

Я адчуў неспатоленым сэрцам,
Як упарта яму нестае
Перамогі ўрачыстага шэсця,
Звонкатрубнага марша яе.

І яшчэ: што імкненне да мэты,
Той, чыё блаславёна імя,—
Не імкненне, па сутнасці,
гэта —
Непазбытная сутнасць мая.

Што ў журбе, паняверцы і скрусе
Ён не сцішыцца, зваблівы марш!
Што, ўздыхаючы горка, ты мусіш
Крочыць, крочыць. Ратунку — нямаш.

* * *

Хвіліны бесклапотнасці зямной
Маю душу ізноў не атулілі...
Прайшлі, як дождж самотны, староной —
Чаканнем набрынялыя хвіліны.

Хоць будзе міг шчаслівы не адзін
Наперадзе, хоць ружавее золак —
Шкада мне гэтых сонечных дажджын,
Як нітачак нявытканых вясёлак.

* * *

Весновай вуліцай, напоўненай, як пойма,
Святлом і свежасцю вясновых шчодрых дзён,—
Ішоў і адчуваў: ні капяжы, ні промні
Не ўзрушваюць душы,
вясне — я не жадзён.

Са мною цень ішоў,
цень незадавальнення:
Але не светам, што руне́ў перада мной.
Не светам веснавым святочнага зіхцення —
Самім сабой, душой
пустой, невеснавой.

* * *

Куток, дзе я калісьці рос,
У светлым ззянні далягляду,
У ветлым шапаценні рос —
Хоць раз у год наведаць рады.

Мой лес, мой луг, мая рака,
Нішто мне тут не пагражае...
Пясочак жоўценькі рука
З пяшчотаю перасыпае.

Сачу за плёскатам вады
І аб сваім мяркую лёсе —
Ці ўдаль плывуць мае гады?
Ці лепшае тут засталося?

* * *

Дзень мінуў, напоўнены, як мех,
Гукамі: то крык, то плач, то смех
На мяне ляцелі штохвілінна,
Як лавіна.

І не мог
ратунку я знайсці,
І не мог
нікуды я сысці,
Уцячы.
Хоць лямантуй у скрусе:
Я — здаюся!

Дзень мінуў. Сцямнела за акном.
Хутка — ноч. Я атулюся сном,
Думкі і турботы адпусціўшы,

І тады якраз, калі сама
Прыляціць,
уночы, як сава,
Як дзіця начнога змроку,—
Ціша.

## ДЗІЎНЫ ЛІСТАПАД

Нейкі бледны прайшоў лістапад,
Не звінеў, не шугаў з апантанасцю.
Што рабіць? Як вярнуць мне назад
Ліставеі былыя? — пытаюся.

Нейкі бледны прайшоў лістапад
Над лясамі, гаямі, дубровамі.
Не журыўся, як нечы пагляд,
Не шчымеў, быццам рана барвовая.

Нейкі бледны прайшоў лістапад,
Ці ён быў, ці не быў? Мо здалося мне?
Можа, сэрца таксама на спад
Пакрыёма ідзе разам з восенню?

## ЗБАВЕННЕ

Як свет зіхцеў срабрыстым віраваннем,
Як радасна крынічыла святло...
І з нейкім
        літасцівым дараваннем
Ты прыгадаў і тое, што было.

* * *

Як быццам ты ляцеў з гары, што камень,
Пад грукат грому, бліскат бліскавіц...
І вось,
      зямлю адчуўшы пад нагамі,
Палёт свой нават
            згодзен блаславіць!

## ЁЛАЧНАЯ ЗАЛА

Была цішыня. Цішыня як ніколі.
Вясновае ранне. Тужлівы настрой.
Я моўчкі ішоў
і спыніўся міжволі
У ёлачнай зале, самотнай, пустой.

Паркет, як люстэрка. Адкінуты шторы.
Гарадь вітражы з прамяністага шкла...
О, колькі тут сёння святла і прасторы
Для радасці той, што яшчэ не прыйшла!

* * *

Хутчэй, хутчэй
Паехаць куды-небудзь.
Каб нешта ўбачыць
І каб нешта зведаць.

Ад гэтых сцен —
Ад чатырох канвойных —
Далей, далей
Па сцежках польных, вольных.

Мне падарожжа трэба,
Каб прачнуцца,
Адчараваць
І думкі, і пачуцці.

* * *

Наўкол — бязмер лагодны акіяна,
Наўкол — блакіт, прастора і святло.
Я светам, светам зноў зачараваны,
І ўсё благое, даўняе прайшло.

Мой лёс ільсніць вясёлым перламутрам,
Прапаў мой сум, згубіўся неспакой.
Чытаю скруткі летапісцаў мудрых
І болей не трывожуся душой.

* * *

Як пацяжэлі клопатаў ладункі.
Штодня, штодня, жадаеш ты ці не —
Завітваюць бязлітасныя думкі,
Якія не завітвалі раней.

Не саўладаеш з неспакоем вечным,
І калі скруха сэрца закране,
Дык не здаецца лёс такім бясспрэчным,
Такім, якім здаваўся ён раней.

Тваім сумненням даць не можа рады
Нішто, і толькі ясна, як прамень,—
Цяпер табе цяжэй агорадь радасць,
Агораць радасць трэба, як раней.

## ЖАДАННЕ

Вам ніколі не хацелася
Павіснуць на стрэлцы гадзінніка?
Каб затрымаць час,
Той, што кружыцца марна,
Той, што глуміцца.
Час, які помсціць тым,
Што не вяртаецца.

## НЕ ДАЗВОЛЬ!

Безнадзейнасць! Ты — госць на замшэлым парозе
Апусцелай хаціны. Як дзіка вакол!
Лепей жыць і гарэць у нясцерпнай трывозе,
Чым панура маўчаць, унурыўшыся ў дол.

Безнадзейнасць! Ты — шэрае неба адчаю,
Што згубіла свой бляск і застыгла, бы лёд.
Як шкадуеш, як трызніш глухімі начамі
Пра паходні маланак і трубы грымот!..

Можа раптам прыйсці нейкі час ліхадзейны,
Апануе цябе смутак прыкры і боль,
На парозе душы можа стаць безнадзейнасць...
Ані кроку далей ёй ступіць — не дазволь!

* * *

Раптам стрэўся з вачамі,
Можа быць, нездарма —
Надпіс шыльды звычайнай:
«Уваходу няма».

Адшугае юнацтва,
Ціха прыйдзе зіма.
З цемры блісне знянацку:
«Уваходу няма».

## СЯБРУ

Ты злоснікаў сваіх не пераможаш.
Няма ў цябе драбніцы аднае:
Ты так ісці наперарэз не зможаш
І так хлусіць, як злоснікі твае.

О не,
        ты перамогі не здабудзеш
І не ўскладай надзей сваіх на бой:
Ты і на полі заставацца будзеш,
Ці хочаш ты, ці не,— самім сабой.

І, можа быць, ты вернешся ў няславе...
Не ўмееш ты ні здраджваць, ні лаўчыць...
І толькі раптам і на самай справе
Ты паражэннем гэта не лічы.

## ПАРАТУНАК

Над белым аркушам паперы
Схіліся з верай і даверам
Да літар — цудадзейных лек.

Аддай лісту свой боль і смутак,
Паперы старажытны скрутак
Як паратунак быў спрадвек.

* * *

Мець такую справу,
Каб яна
Засланяла цябе
Ад усіх непамыслот.

У апрыкрай мітусні,
У тлуме нудных дзён
Свяцілася агністай кропляй.

Мець тайную зброю
Ў сабе.

2 Зак. 377

## ШКАДАВАННЕ

...Пра гэты
Помны крок —
Нязроблены —
Шкадую...

Чаму, скажыце мне,
Чаму ў хвіліну тую

Не ўспыхнулі здалёк,
Не бліснулі пагрозна —
Сігналы, што цяпер
Мігцяць: «Па часе!», «Позна!»?!

* * *

Калі агнём гарыць асіна,
Калі апошняе лісцё
Назло вятрам і сцюжы сіняй
Сваё працягвае жыццё,

Тады ты ставіш без сумнення
(Няхай палае ліставей!)
Душы імгненнае гарэнне
За неўміручасць даражэй.

## MEA CULPA

У паражэннях, горычах і стратах
Я часта-часта сам быў вінаваты.

Нікчэмнымі здаліся б нараканні
На лёсу непамысную адхлань,
Бо гэта я вагаўся заарканіць
Удачу, хуткабегую, як лань.

Бо гэта мне, самому, не ставала
Рашучасці,
бо гэта я — не лёс —
Для радасці рабіў на дзіва мала...
Бо гэта я
сабе
пакуты
нёс.

## ЧАС БУРШТЫНУ

Як доўга я па беразе блукаў,
Шукаў бурштыну вабныя асколкі...
Зглуміў свой час. Нічога не знайшоў.
Свая пара не толькі ў траў і красак.

Ёсць час бурштыну.
                    Ціхай раніцой
На беразе ты спынішся і ўбачыш:
Усё, што гэтак прагна ты чакаў,
Глыбіні мора аддалі да рэшты!

* * *

Снег іскрысты,
Снег блакітны
На ўзбярэжжы
На балтыйскім.

Гэты дзень духмяны,
Свежы,
Гэты дзень крамяны,
Снежны,

Гэты дзень румяны,
Лыжны.
Не хачу я
Дзён
Адліжных!

Я п'янець хачу
Ад снегу,
Я п'янець хачу
Ад свету.

...Снег блакітны,
Снег іскрысты
Сёння быў
На ўзмор'і Рыжскім.

## ПЛЫНЬ

Заход праменіцца над водамі
Святлом стагоддзяў трапяткім...
І нас, як продкаў, поўніць одумам
Негаманкая плынь ракі.

О, колькі
мігатлівых кропелек
Адзіхацела і сплыло...
Імён, падзей, надзей, захопленых
У незваротнасці палон.

Чаму, скажы, плынь хуткацечная,
Не забярэш ніяк з сабой
Валун, што лёг на плечы вечнасці,—
Адвечны
чалавечы
боль?

## МІНСКУ

О, колькі спазнаў ты жахаў, о, колькі пакуты зведаў.
Таптаді цябе татары, глумілі саксонцы, шведы.

І, можа, таму, што колісь ты мірна не жыў ні міга —
Тады ад глухога болю сышла пад зямлю Няміга.

І час, што мінуў даўно ўжо, і час незагойны блізкі —
Стаіць за абвугленым дрэвам маўклівага абеліска.

* * *

Жанчына ішла па бруку,
Дзяцей ведучы за рукі.
Ішла па завулку цесным,
Як быццам ваду несла.

Абы не сустрэць бяду,
Абы не разліць ваду.

Хапае нягод на свеце,
А войны, а ліхалецці.
Зямное тугі нямала
Яна сама паспытала.

Абы не сустрэць бяду,
Абы не разліць ваду.

І злыдняў на свеце — працьма.
Адна, адна толькі просьба.
Абы
не сустрэць
бяду,
Абы
не разліць
ваду.

## ВЯЗЫНКА

Вось тут,
у хатцы, простай, як сляза,
І нарадзіўся некалі Купала.
Ён нарадзіўся, каб пасля сказаць,
Што Беларусь у свеце не прапала.

І калі ёй прыйшлося напаткаць
Ліхую вестку, што памёр Купала,
Яна
далонь да гэтага кутка,
Як да пакутнай раны, прыціскала.

* * *

Спякота. Пыл. І не знайсці нідзе
Глытка вады. Звініць мая біклага.
Але няма нічога саладзей
На свеце, як спатоленая смага.

...Лятунак, што пакутна беражэш,
Апаліць крылы і загіне марна...
Але няма нічога даражэй
На свеце, як спатоленая мара.

## ІМКНЕННЕ

Няўмольнае, як сіла прыцягнення,
Балючае, нібы свінца драбок,—
Жыве ў нас непарушнае імкненне
Ступіць аднойчы, раптам — не ў той бок.

Сказаць «бывай» штодзённае руціне,
Прымаць, як бой, штодзённы неспакой.
Ад маладушных ісцін павуціння
Сваю душу ачысціць, як пакой.

Не даць сябе апанаваць дрымоце
У кабінетнай прывіднай цішы...
Не так зрабіць, як хочацца істоце,
А так зрабіць, як трызніцца душы!

* * *

Ушануйма таго, хто йдзе
Напярэймы глухім навалам,
Не губляючы анідзе
Веры ў гулкі акорд фінала.

Але тройчы ўшануйма тых,
Хто ступаў на сваю дарогу
З непахіснасцю праваты,
Без надзеі на перамогу!

* * *

У змрочных сховах Домскага сабора,
Калі ўгары загаварыў арган,
Бязлітасна-праўдзіва і сурова,
Нібы ажыўшай вечнасці курган,

Я зразумеў сапраўднае значэнне
Згрызот сваіх, што зніклі, як сон.
Я зразумеў, як дробна, як нікчэмна
І тое... І другое... Хоць не ўсё.

## СКАРЫНА

Тады, калі была краіна
Пад гвалтам здзеку і абраз,
Ты быў для нас, нібы іскрына,
Як памяць,
вера
і абраз.

## МАСТАК

Патрэбны яму пакой,
Патрэбны яму —
Спакой.

Больш, як любому з нас,
Патрэбны яму —
Час.

А жыццё —
Пазяхае кпліва,
Патурае яму
Не дужа.
«Ах, табе
Мікраклімат!
Што ты —
Чайная ружа?»

## САМАЛЁТ

Якая мне
Патрэбна праца,
Каб так, як ён,
Высока ўзняцца.

Узняцца —
Не па-над зямлёю,
Узняцца —
Над самім сабою,

Сваёй нікчэмнасцю
Ганебнай —
У чысціню,
Нібыта ў неба.

Зло ў сабе
Пераадолець...

О, як патрэбна
Гэта
Здолець.



Пытацца, сумнявацца — лішняе,
Быць у ваганнях і тузе:
Ці прыніжэнні дзеля бліжняга
Усе даруюцца? — Усе.

* * *

Ты сёння дзень пачаў нікчэмна —
Злом.
І ўсё пакуль ідзе дашчэнту —
На злом.

За што ты ні спрабуеш брацца —
Дарма:
Ані спакою, ані працы —
Няма.

Ты сам сябе цяпер знішчаеш —
Суздром.
...Свой дзень на свеце пачынаеш —
Злом...

## ДЫВАН

У музеі на Ашхабадскай дывановай фабрыцы я ўбачыў дыван незвычайнай прыгажосці. Ён сатканы старым майстрам, які загінуў у час землятрусу 1948 г.

Дываны, дываны...
Дываноў найдзівоснае ззянне.
Колькі тут пешчатлівай душы,
Колькі тут хвалявання.

Кожнай ніткай сваёю
Яны прамаўляюць і сведчаць,
Як схіляліся рупныя плечы
І ўранні, і ўвечар.

Маляўнічы арнамент...
Гэта нечыя шчодрыя мары.
Ці збыліся яны?
Але ўсё ж завіталі не марна!

...Толькі гэты дыван
Аглядаю ў задуме і скрусе.
Нават зыркая гладзь
Мне нагадвае аб землятрусе,

Аб зямлі, што была,
Як дыван, маляўнічай і пекнай.

А пасля скаланулася
І загрымела, як пекла.

Дзе ты, майстра? Цябе
Пахавалі каменныя груды.
А дыван ацалеў,
Ацалеў нейкім д'ябальскім цудам.

На музейнай сцяне
У цяністай дагледжанай зале

Ён вісіць, як вісеў,
І блюзнерскімі фарбамі ззяе!

## ВЕЧНЫ АГОНЬ

Трапеча ён,
Нібы асенні ліст,
Што вось-вось адарвецца ад галіны.
О, як не хоча адрывацца ліст...

Здаецца,
Гэта ўсё яшчэ жыве
Агонь тае, апошняе, хвіліны.
О, як не хоча ён згасаць,
знікаць
І Вечным стаць...

* * *

Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

М. Багдановіч

У Вільні, каля Вострай Брамы,
Дзе ён калісьці летуцеў,
Мне бачыцца святлістым раннем
Максімаў цень, Максімаў цень.

Наўкол — праменіста-спакойна.
Густая раніншяя ціш.
Куды, скажы, імклівы коннік,
Сцяжынай даўняю ляціш?

Згадай,
як некалі нястрымна
Хацеў адолець сотні вёрст,
Як прагнуў даскакаць да Крыма,
Да песняра свайго — наўпрост.

Ягоным стаць ўратаваннем,
Смяротны скасаваць прысуд,
Мячом скрышыўшы гартаваным
Згіноты хіжую касу!

# КАМЕННЫЯ БАЛАДЫ

Ганна, і Вострая Брама, і цуд на Атокалі слынны,
Як ацалелі яны, як нелітасцівыя войны
Іх не кранулі?

Ведаем: жорсткі агонь — жаднай красы не шкадуе,
Ведаем: выбух знішчальны — красы не міне.

Ведаем: як падалі готыкі стрэлы,
Там, дзе квітнела барока — прысак чарнеў.

Ведаем...

## КІПАРЫСЫ

Чаму
Пахмурым восеньскім днём
Трывожнымі здаюцца мне
Кіпарысы?

Чаго ўглядаюцца яны
У мора,
Маўклівае і самотнае?

Мо ўспамінаюць вайну,
Якая не абмінула
І гэты край,
Маляўнічы, цудоўны?
Кіпарысы,
Падобныя на абеліскі.

## СЛУХАЮ ГЛАДЗІС МАРЫН

Яна адтуль,
Дзе звяры палююць на людзей,
Дзе свабода патоплена ў акіяне,
Спалена жыўцом на вогнішчах,
Скінута з горных вяршыняў.

Гавары, гавары,
Хай не хвалюецца перакладчыца,
Мы ўсё зразумеем,
Мы ўсё адчуем
І скажам табе пра гэта.

* * *

Чужой спагады грэшна дамагацца.
На плечы тых, што побач кожны міг,
Каб нам адным пакутна не ўгінацца,—
Узвальваць мех непамыслот сваіх.

Чужой спагады грэшна дамагацца,
Чужой спагады і чужых трывог.
Нашто дзяліцца з іншымі багаццем,
Якое сам ты кінуў бы, каб мог?

Чужой спагады грэшна дамагацца.
Сціскаць далоні і клясці свой лёс.
Хто енчыць век — таму не здагадацца,
Што нехта плача, ды не мае слёз.

Чужой спагады грэшна дамагацца.
Чысцейшага нічога не знайду,
Як разам з бліжнім плакаць і смяяцца,
Забыўшыся на ўласную бяду.

## РАЗМОВА З ДУБАМ

### I

Самотны дуб на грудзе. Кожны раз
Ён мне нагадвае калону храма
Мінуўшчыны.
Разбураны суздром,
Маланкамі начнымі сплендраваны
Быў храм. Застаўся
Толькі гэты дуб.

### II

Кунаты ствол не ахапіць аберуч,
Як час, што помніць ён, не ахапіць.

У змроку голля... Там, у глыбіні,
Што там чарнее, што там барвавее,
Што свеціць там, што цьмяна мільгаціць?
Эпохі?

### III

Дай адказ мне!
Спатоль маю цікаўнасць, гаспадар,
Вялікі князь пушчанскі і дуброўны!

Апавядай пра гулкія вякі,
Пра час, які ты згадваеш, напэўна.
Апавядай!

IV

І я пачуў, пачуў амаль адразу,
Як шэпт, як подых — два скупыя сказы:
«Быў гром, быў змрок, маланкі, як мячы.
Уцёк бы я — каб мог я уцячы».

* * *

На вуліцах пустэльных Ашхабада,
Дзе я блукаў калісьці дзень пры дні,
Здалося неяк, што я быў бы рады
Жыццё пражыць у гэтай цішыні.

Вось так блукаць спакойна і самотна
Па вуліцах пустэльных дзень пры дні,
Вось так блукаць бязмэтна, бесклапотна
У выпаленай сонцам цішыні.

Што сталася — я адказаць не ў стане,
Яшчэ адзін прайшоў я толькі крок —
І гэтае нікчэмнае жаданне
Рассыпалася ў момант, як пясок.

* * *

Дайце часу!
Поўную чашу.
Найдаражэйшы дар —
Вольнага часу нектар.

Вольнага ад будзённай
Скрухі, што крушыць нас.
Ад мітусні бяздоннай,
Дзе як тапелец — час.

Вольнага, быццам неба,
Вольнага, як агонь.
Вольнага
ад патрэбы
Размяркоўваць яго.

...Раптам душа заные,
Горкі палын азоў:
Час — гэта ж лёс зямны мой,
Час — не вернецца зноў.

Вольнага, найжаданага,
Часу жыццядайнага!

## КРЭПАСЦЬ УНАЧЫ

Чую крокі.
Гэта —
Абаронцы Брэста.
Тыя, што загінулі,
І тыя, што выжылі.

Чую стрэлы і выбухі.
Усё бліжай і бліжай
Гучаць яны.

Чую
Дзесьці зусім побач
Мора
Гневу і мужнасці.

## МОВА

Ацалела і пад навалaмі —
Не згарэла ў ліхім агні.
Мова наша — вогнетрывалая,
Быццам брэсцкія камяні.

## МЫЛІЦЫ

Інваліды Айчыннай.
Паклон вам нізкі, шчыры.

Лёс ваш —
Святы і горкі.
Боль —
Як змаглі ўтрываць?
Мыліцы —
Як падпоркі —
Свет памаглі ўтрымаць.

* * *

Адпалалі вогнішчы Купалля,
Адшумелі крыллем гаманкім.
Плынь ракі даўно ўжо не купала
Пешчатліва звітыя вянкі.

Вечарам асеннім ці вясновым
З намі не вячэраюць «дзяды».
«Час ідзе! Ніякаю замовай
Не спыніць ягонае хады!»

Некуды знікаюць пакрыёма
Песні... Словы... Час ляціць хутчэй
За віхор. І гэта — аксіёма.
Толькі мне чамусьці
не лягчэй.

Толькі мне і горка, і журботна,
Тое свята, што крадзецца ў нас,
Што знікае глуха, незваротна,—
Безаглядна спісваем на час.

## ПОМСТА

Не мітусліваю злабой,
Падступнаю, лядачай —
Адпомсці злоснікам
Сваёй
Шалёнаю
Удачай.

Як непамысна будзе ім
Ад горкай думкі простай,
Што ты — шчаслівы
І зусім
Не прагнеш
іншай
помсты!

## МІТУСНЯ

Нас абступае мітусня,
Нас абступае, як сасняк.

Час, час ужо
                знайсці ратунак
Ад прагных неадчэпных думак.
Час, час ужо
                знайсці збавенне
Ад надакучных летуценняў.

Аб гэтай
            зыркай мітусні
Даволі марыць, трызніць, сніць!

Забыць, забыць аб ёй дазвання.

Сапраўднае, будзь як прызванне.

## КРЫЛАТЫ БОЛЬ

Паранены арол
Упаў
На дол.
О, стань крылатым —
Боль зямных нядоль.

І
адусюль,
І зблізку,
І здалёку
Ты далятай
Да нашых сэрцаў
Лёгка.

Няхай шумяць
Усе зямныя крыўды
Над кожным сэрцам,
Як цяжкія скрыдлы!

## ГОДНАСЦЬ

Ды што й казаць,
І так бывае:
Мы нашу годнасць
Забываем...

Але пасля...
                    неверагодным
Здаецца нам, што мы маглі
Уласную прынізіць годнасць,
Прыціснуць ботам да зямлі.

Прыгадваеш аб гэтым горка,
Душу дакорам апякло.
Калішняй годнасці асколкі
Кругом рассыпаны, як шкло.

Балюча йсці па сцежцы колкай,
Балюча ў твар зірнуць сябрам.
Сабраць бы гэтыя асколкі,
Калі не склеіць, хоць сабраць!

* * *

Блукаю лютаўскім Заслаўем,
Што снежным покрывам заслана.

Блукаю вусцішным Заслаўем,
Як бы шукаючы сляды
Князёўны полацкай,
сасланай
Калісь, даўным-даўно, сюды.

І ў гэтай цішы незвычайнай
Яе мне чуецца маўчанне.

## УСПАМІН

Імкліва беглі, беглі рэйкі.
І каля Новае Вілейкі
На міг спыніўся мой цягнік.
Прыпынак мільгануў і знік.
А я успомніў: гэта ж тая
Нова-Вілейка!
                    У шпіталі
Тут некалі служыла Цётка.
...Лёс быў твой жорсткі і кароткі.
О, як дачасна ты згарэла,
Бо жыць інакш — зусім не ўмела.
Пісала вершы і лістоўкі:
Лічыла, мала вершаў — толькі.
Гулі віхуры... На чужыну
Вялі няўмольныя сцяжыны.
Згадаў, як несла сваю ношу,
Калі касіла вёскі пошасць,
І ты ад згубы ратавала
Няшчасных і сама сканала...
Згадаў цябе — і светла стала.

## «Я ВАМ ДАРУЮ...»

«Прашу ўсіх даравацъ мне,
бо я ад шчырага сэрца
дарую маім ворагам —
хоць іх такімі не лічыў».

З завяшчання дыктатара
Франка

Чуеце вы,
Чый развеяўся прах,
Я ўжо забыўся
Аб вашых грахах.

Хоць і тады
Пад агнём барыкад,
Кожны з вас быў для мяне
Быццам брат.

Вас забівалі —
Мне было горка.
Я вам дарую,
Гарсія Лорка.

Вас катавалі —
Мне было крыўдна.
Я вам дарую,
Вязні Мадрыда.

Здань гільяціны,
Жудасны ляскат...
Я вам дарую,
Гнеўныя баскі.

Край анямелы,
Люд твой закуты.
Я вам дарую
Вашы пакуты!

## ПАРАДА

### З усходняга

Адзін паважны аксакал
З кійком
Ішоў па вуліцы
Паўз нейкі дом,

Дзе маці закалыхвала
Малога,
Каб не крычаў,
Нябога.

Каля акна
Спыніўся наш мудрэц.
«Не калышы,
Няхай крычыць хлапец,

Гартуецца,—
Так ён казаў кабеце,—
Крык — сіла,
Крыкунам — лацвей на свеце».

## ЗАЙЗДРОСНІКІ

Калі ў гуморы ты —
Глядзяць яны зайздросна;
Ад поспехаў тваіх —
Ім робіцца аж млосна.

Таму спакон вякоў
Для іх — незамянімкі:
Скляпаныя з хлусні
І бруду ананімкі.

О, не зайздрошчу я
Твайму, зайздроснік, лёсу.
Рот у цябе і той
Заўжды зайздросціць... носу.

О, як бы рот жадаў
Крыху вышэй узлезці,
Бо, што ты ні кажы,
Нос — на вышэйшым месцы!



# ЖАДАННЯЎ НАШЫХ СОНЕЧНЫ АДБІТАК

## РОДНАЕ

Што больш звычайнае, як гэтая сасна,
убраная так строга-невыдумна?
Як гэтая рачулка, што плыве
пацiху, нетаропка, ледзь прыкметна.
Альбо ручай, які бяжыць, імчыць,
гарэзны, па-наіўнаму празрысты.
Ці гэтыя гасцінныя палі, яны заўжды адчынены —
заходзьце!

Але,
Дзе б я ні быў, перада мной
У памяці, як фрэскі, выступаюць:
Палі, сасняк, рака, ручай, палі.

* * *

Увесь,
Ад сонца да травы,
Свет —
Росны, ранішні, жывы.

Здаецца,
Кажа свет: «Бяры
Мае дзівосныя
Дары,

Святло
І пекнату прыроды
Бяры,
І сёння, і заўсёды».

«А шчасце?»
«Выбачай мне, брат,—
Сам у мяне
Ты мусіш браць».

Зак. 377

* * *

Часы пяшчоты і спякоты
На сініх чоўнах адплылі.
Ляціць пажоўклая лістота,
Як пілавінне з-пад пілы.

З якой бы радаснай ахвотай
У гэты дзень, у гэты міг
Развеяў з восеньскай лістотай —
Усё лісцё турбот сваіх!

## АБЛОК

Аднекуль коціцца здалёк
(І апынецца дзе ён?)
Па небе чэрвеньскім аблок —
Клубочак чарадзейны.

Блакіт лятункавы нябёс,
Турботная надзея:
Куды пакоціцца мой лёс,
Клубочак чарадзейны?

4*

## МЕСЯЦ

Адбіўся, відаць, ад статка,
Дадому брыдзе цішком:
Месяц, як зубранятка,
Свеціць срэбным ражком.

* * *

...Лес — сонечны,
дажджысты,
росны.
Лес — снежны,
лес — дзівосна розны.

Лес — пешчатлівы, лес птушыны,
Лес — задуменны, лес цішынны.

Як дыхала маё маленства
У гэтым благаславёным лесе!

Дзе побач — свежасці ралля —
Цякла, бруілася Вялля.

## ХВОЯ

Як ні хвастаў шалёны дождж
І гром ні пагражаў зацяты
Скрышыць галлё тваё,
усё ж
Вясёлаю ізноў была ты.

Як ні гудзеў віхор,
але —
Жыла ў табе краса і ласка.
...Пагодны дзень. Жывіца-казка
Плыве і дрэмле на ствале...

ЖНІВЕНЬ

Зірні ў густую сіняву:
Над нівай жнівеньскай высока
Кудысьці весела плывуць,
Нібыта боханы, аблокі.

* * *

Амаль паўдня
Пяяла-пела
Дажджу
Шумлівая капэла.

І слухалі панура
Дрэвы
Яе дакучлівыя
Спевы.

Ды вось
Заззяла сонца ў лесе,
І першы промень
Быў, як песня.

* * *

Пачакай яшчэ тыдзень хоць нейкі!
Аб вясне будзе лёгка прачуць:
Пабяжыць, паімчыць, як па рэйках,
Цягнічок гаманлівы — раўчук.

* * *

Быў летні луг, святочны, маляўнічы,
Быў ціхі звон, і не было тугі.
Заўважыў я: калі спакой крынічыць,
Заўжды цвітуць вясёлкамі лугі.

Пасля было сцюдзёнае сузор'е
І лес вячэрні, лес негаманкі...
Мацейкі пах...
І зразумеў ізноў я,
Што і настрой, напэўна, мой такі.

Пасля быў дождж дакучны, аднастайны,
Хліпела лістападаўская золь...
А для мяне больш не было ўжо тайны,
Што гэта быў і смутак мой, і боль.

* * *

Начнога Каспія спакой і прахалода...
Плыві, плывец, святкуй жаданы час.
Быў цяжкі дзень. Гаючаю лагодай
Туманны Каспій атуляе нас.

Забудзь пра шлях, пакутлівы, далёкі,
Забудзь нудзьгу сваіх непамыслот.
Пасля распаленай туркменскай спёкі
Адчуй спрадвечную магутнасць вод!



Вечар у ціхім
Зорным палоне.
Лодкі ля берага,
Быццам далоні.

Быцам далоні цішы,
Якая
Нейкага цуду сёння
Чакае.

Можа, не гучна,
Можа, не звонка —
Стукне па днішчы
Спелая зорка.

* * *

Як рэдка нас вітае лес.
Звіняць у гулкай адзіноце
На веснавой квітучай ноце —
Канваліі, пралескі, бэз.

Яны звіняць, нібы дакор,
Няўдзячнікам адрасаваны,—
Што лес цвіце, як апантаны,—
Не для аблокаў, не для зор...

* * *

Бруенне рэк... На свой, адзіны лад,
Усе вякі — без мітусні і скрухі
Плывуць... І не стамляецца пагляд
Сачыць за гэтым самавітым рухам.

Сачыць, і ўсё. Не трэба іншых лек,
Рака закалыхае хваляванне.
Бруенне рэк... Шчымлівы подых рэк —
Самой зямлі празрыстае дыханне.

## СУТОННЕ

Сутонне. Мора. Удалечыні
Ў смузе плыўцоў самотныя абрысы...
Якая ціша панавала скрозь,
І як пяшчотна лашчыўся вятрыска,
Лагодны, далікатны...
Я хацеў,
Я прагнуў кінуцца ў абдымкі мора,
І прэч тугу,
Будзённы потны дзень,
Хай сэрцам неабдымнасць заўладарыць,
І свежасць, і бадзёрасць...
Ды, на жаль,
Я хворы быў і назіраў зайздросна
За тымі, удалечыні,
Яны
Плылі ў моры кроз, у моры цішы...
Быў вечар незвычайны, незямны.
Шкада яго да гэтае пары мне,
Быць мо,
Калі прыгадваю яго,
Усё, што я згубіў, усё, што страціў,
У хвілю тую згадваецца мне.

* * *

Шчымлівы пах мора.
Што ён нараджае
У сэрцы,
Чуйным і кволым?

Шчымлівую горыч,
Шчымлівыя мроі,
Шчымлівае мора.

## МОРУ

Ты — мора. Ты ўладарны чараўнік.
Зрабі адзін учынак дабрачынны.
Зямлі недасканалы чарнавік
Ты замяні зіхоткай далячынню.

У наступ рушыць хвалям загадай,
Імклівыя, няхай змятуць мой смутак.
Душу маю — пяшчотна загайдай
І пенай
Невымоўнаю
Ахутай!

* * *

Чайкі
Дрыжаць на вадзе,
Як цаплаўкі.
Раз-пораз
Плаўна яны пераскокваюць
З хвалі на хвалю,
З хвалі на хвалю.
Моўчкі
Зайздрошчу я
Лёгкасці гэткай
Дзівоснай.
Эх, не прыдбаць нам
Ніколі
Спрыту такога,
Ніколі!
Цяжка мы робім
Справу сваю зямную.

## АСЕННЯЯ АБХАЗІЯ

Не, лепш было б
Паехаць мне туды,
Дзе навакол —
Вятры, снягі, ільды.

Дзе ўсё было б
Зусім такім, як мой
Настрой.

А не сюды,
Дзе зіхатлівы баль —
Лясныя шаты гор,
Бруенне хваль.

Дзе ўсё мяне
Прыгнечвае сваёй
Красой.

Дзе мучыць
Ад усходу да заходу —
Вачэй і сэрца
Прыкрая нязгода.

## ПІЦУНДА

Найсмалістыя ў свеце
Хвоі —
Тут пасталі,
Як воі.

Найчысцейшыя
Стынуць
Воды.

Цішыня.
Водар.

Як такія празрыстыя воды
Адбіваюць смутак...

## РЫЦА

...І вось перада мною —
Рыца,
Як чыстая душа,
Празрыцца.

І гор
Цяжкія камяніцы,
Гор пірамiды
Па-над Рыцай...

І цяжка гэтак мне,
Як быццам
Я сам іх збудаваў...

## КРАСКІ І СНЕГ

На аўтобусе экскурсійным
Па Каўказе мы калясілі.

Жнівень. Рай зеляніны. Краскі
Зырка ўспыхвалі там і сям.

Снег, як цуд, на хрыбтах каўказскіх
Так і кінуўся ў вочы нам!

Як мы ўсе на яго глядзелі:
Снег, як цуд, зіхатліва-белы.

...Апрача той, смутной, жанчыны.
Ледзь зірнула яна ў акно.
Снег, які акрываў вяршыні,
Ёй душу халадзіў даўно.

* * *

О, каб жыццё
Такім было для нас,
Такім нястрымна шчодрым,
Як Каўказ.

О, каб яно
Заўжды такім было,
Каб так святлом шугала
І цяплом.

Так, як Каўказ,
Які зіхціць, нібыта
Жаданняў нашых
Сонечны адбітак.

## ПАНТЭРА Ў ЗВЯРЫНЦЫ

Пантэра? Чорная пантэра?
Стаю, вачам сваім не веру.

Ні знаку грацыі славутай.
І зразумела мне, чаму так.

У гэтым клетка вінавата.
Усю красу забілі
Краты.

І дзіва — як
Ільсняць яшчэ
Азерцы светлыя
Вачэй.

* * *

У горадзе зімовым вечаровым
Здаецца ўсё нязвыклым і чароўным.

І цішыня, і ліхтары, і вокны,
І гэты снег, і нават вецер вогкі.

Ільсніцца і плыве зімовы вечар...
А снег, а снег ляціць яму на плечы.

* * *

Нехта браму вясны
Адчыніў.
Несціхана шумяць
Ручаі.

Як цячэ, уцякае
Ручэй
Ад маўчання свайго —
Найхутчэй!

Найдалей! Без упынку!..
Вось так,
Дужа доўга маўклівы
Мастак,

Апантанаю трызнячы
Працай,
Хоча вырвацца,
Хоча прарвацца.

ЗМЕСТ

Калі даспелі гронкі арабіны...

Заклінанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . 6
*** Лясны гушчар і зорны бляск начы . . . 7
Праца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 8
Апантанасць . . . . . . . . . . . . . . . . 9
Ранак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10
Гронкі арабіны . . . . . . . . . . . . . . 11
*** Быў дзень крамяны, дзень асенні . . . . 12
*** Ах, звон веласіпедных колаў . . . . . . 13
Падарожжа . . . . . . . . . . . . . . . . 14
*** Аднастайна дажджы звінелі . . . . . . . 15
Урачысты марш . . . . . . . . . . . . . 17
*** Хвіліны бесклапотнасці зямной . . . . . 18
*** Вясновай вуліцай, напоўненай, як пойма . . 19
*** Куток, дзе я калісьці рос . . . . . . . . 20
*** Дзень мінуў, напоўнены, як мех . . . . . . 21
Дзіўны лістапад . . . . . . . . . . . . . 22
Збавенне . . . . . . . . . . . . . . . . . 23
Елачная зала . . . . . . . . . . . . . . 24
*** Хутчэй, хутчэй . . . . . . . . . . . . . 25
*** Наўкол — бязмер лагодны акіяна . . . . . 26
*** Як пацяжэлі клопатаў ладункі . . . . . 27
Жаданне . . . . . . . . . . . . . . . . . 28
Не дазволь! . . . . . . . . . . . . . . . 29

*** Раптам стрэўся з вачамі . . . . . . . . . . 30
Сябру . . . . . . . . . . . . . . . . . 31
Паратунак . . . . . . . . . . . . . . . 32
*** Мець такую справу . . . . . . . . . . . 33
Шкадаванне . . . . . . . . . . . . . . . 34
*** Калі агнём гарыць асіна . . . . . . . . . 35
Mea culpa . . . . . . . . . . . . . . . . 36
Час бурштыну . . . . . . . . . . . . . . 37
*** Снег іскрысты, снег блакітны . . . . . . . . 38

**Трапеча ён, нібы асенні ліст...**

Плынь . . . . . . . . . . . . . . . . 40
Мінску . . . . . . . . . . . . . . . . 41
*** Жанчына ішла па бруку . . . . . . . . . 42
Вязынка . . . . . . . . . . . . . . . . 43
*** Спякота. Пыл. І не знайсці нідзе . . . . . 44
Імкненне . . . . . . . . . . . . . . . . 45
*** Ушануйма таго, хто йдзе . . . . . . . . . 46
*** У змрочных сховах Домскага сабора . . . . 47
Скарына . . . . . . . . . . . . . . . . 48
Мастак . . . . . . . . . . . . . . . . 49
Самалёт . . . . . . . . . . . . . . . . 50
*** Пытацца, сумнявацца — лішняе . . . . . . 51
*** Ты сёння дзень пачаў нікчэмна . . . . . . 52
Дыван . . . . . . . . . . . . . . . . 53
Вечны агонь . . . . . . . . . . . . . . 55
*** У Вільні, каля Вострай Брамы . . . . . . 56
Каменныя балады . . . . . . . . . . . . 57

Кіпарысы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 58
Слухаю Гладзіс Марын . . . . . . . . . . . . . 59
*** Чужой спагады грэшна дамагацца . . . . 60
Размова з дубам . . . . . . . . . . . . . . . 61
*** На вуліцах пустэльных Ашхабада . . . . 63
*** Дайце часу! . . . . . . . . . . . . . . . . 64
Крэпасць уначы . . . . . . . . . . . . . . . . 65
Мова . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 66
Мыліцы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 67
*** Адпалалі вогнішчы Купалля . . . . . . . 68
Помста . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 69
Мітусня . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 70
Крылаты боль . . . . . . . . . . . . . . . . . 71
Годнасць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 72
*** Блукаю лютаўскім Заслаўем . . . . . . . 73
Успамін . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 74
«Я вам дарую...» . . . . . . . . . . . . . . . 75
Парада . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 77
Зайздроснікі . . . . . . . . . . . . . . . . . 78

**Жаданняў нашых сонечны адбітак**

Роднае . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 80
*** Увесь, ад сонца да травы . . . . . . . . 81
*** Часы пяшчоты і спякоты . . . . . . . . . 82
Аблок . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 83
Месяц . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 84
*** ...Лес — сонечны, дажджысты, росны . . . 85
Хвоя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 86

Жнівень . . . . . . . . . . . . . . . . . . 87
*** Амаль паўдня . . . . . . . . . . . . . . 88
*** Пачакай яшчэ тыдзень хоць нейкі . . . . . 89
*** Быў летні луг, святочны, маляўнічы . . . 90
*** Начнога Каспія спакой і прахалода . . . . . 91
*** Вечар у ціхім . . . . . . . . . . . . . . 92
*** Як рэдка нас вітае лес . . . . . . . . . . 93
*** Бруенне рэк . . . . . . . . . . . . . . . 94
Сутонне . . . . . . . . . . . . . . . . . . 95
*** Шчымлівы пах мора . . . . . . . . . . . 96
Мору . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 97
*** Чайкі дрыжаць на вадзе . . . . . . . . . 98
Асенняя Абхазія . . . . . . . . . . . . . . 99
Піцунда . . . . . . . . . . . . . . . . . . 100
Рыца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 101
Краскі і снег . . . . . . . . . . . . . . . 102
*** О, каб жыццё . . . . . . . . . . . . . . 103
Пантэра ў звярынцы . . . . . . . . . . . . 104
*** У горадзе зімовым вечаровым . . . . . . . 105
*** Нехта браму вясны адчыніў . . . . . . . . 106

Павел Аркадьевич Мартинович

Время янтаря

На белорусском языке

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак Б. А. Забораў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Л. С. Мануленка.

ІБ № 272

АТ 10804. Здадзена ў набор 7/VI 1977 г. Падп. да друку 14/XI 1977 г. Тыраж 3700 экз. Фармат $60 \times 108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 4,20. Ул.-выд. арк. 2,12. Зак. 377. Цана 35 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнагагандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Марціновіч П.**

М 29 Час бурштыну. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1977.
112 с. з іл.

«Час бурштыну» — другая кніга П. Марціновіча. Гэта вершы глыбока лірычнага плана, непасрэдныя адбіткі пачуццяў і думак паэта.

Творы кнігі прасякнуты гуманістычным пафасам, сцвярджэннем дабра, высокіх маральна-этычных ідэалаў.

М $\frac{70403-211}{М 302(05)-77}$ 55—78 Бел 2

